# XVIII З'ЕЗД ВКП(б)

У незабыўны гістарычны дзень 10 сакавіка 1939 г. у чырвонай сталіцы Маскве, у Вялікім Крэмлёўскім палацы адкрыўся XVIII з'езд Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў).

З усіх канцоў неасяжнай совецкай зямлі з'ехаліся дэлегаты, лепшыя людзі нашай партыі. Яны на чале з першым дэлегатам з'езда—вялікім правадыром, настаўнікам і другам працоўных усяго свету таварышом Сталіным падвялі вынікі слаўнага шляху, які прайшла наша совецкая краіна за апошнія пяць год.

Яшчэ багацей і прыгажэй стала жыццё ў нашай совецкай краіне за прайшоўшыя пяць год. Мы сталі адной з самых магутных краін у свеце.

Вось аб усіх гэтых велічных перамогах і аб тым, як павінна наша краіна развівацца ў далейшым, дакладваў XVIII з'езду партыі наш правадыр таварыш Сталін.

Таварыш Сталін гаварыў аб тым, што ў нашай краіне ўжо зусім няма эксплуататараў, жыццё ўсяго совецкага народа стала заможным і культурным. Яшчэ больш умацавалася адзінства совецкага народа вакол большэвіцкай партыі. Яшчэ мацней стала дружба народаў нашай краіны.

Працоўныя СССР пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі з поспехам выканалі дзве сталінскія пяцігодкі. Дзякуючы гэтаму да непазнавальнасці змянілася аблічча нашых гарадоў, мястэчак і вёсак. У нашай краіне няма ўжо больш або амаль няма старых заводаў. Нашы заводы, калгасы ўладаюць цяпер найбольш перадавой тэхнікай, гэта значыць, самымі новымі, самымі дасканалымі машынамі. Нідзе так шырока не распаўсюджана новая тэхніка як у нашай совецкай краіне.

У сваім дакладзе таварыш Сталін прывёў цікавыя лічбы росту школ, бібліятэк, тэатраў, кіно і клубаў. Усё гэта сведчыць аб тым, што наша партыя і ўрад увесь час клапоцяцца, каб жыццё совецкага народа стала яшчэ больш прыгажэйшым, заможным і культурным.

Таварыш Сталін яскрава абрысаваў далейшыя задачы нашай партыі і краіны. Перад нашай краінай стаяць вялікія задачы. Мы павінны зрабіць нашу краіну яшчэ больш магутнай, нашы заводы будуць вырабляць яшчэ больш машын і другіх тавараў, наша сельская гаспадарка прынясе багаты ўраджай, у нашай краіне вырастуць сотні новых заводаў, электрычных станцый.

XVIII з'езд партыі абмеркаваў і зацвердзіў план развіцця нашай гаспадаркі да 1942 года. Даклад на з'ездзе партыі аб 3-м сталінскім пяцігадовым плане зрабіў старшыня Совета Народных Камісараў СССР таварыш Вячэслаў Міхайлавіч Молатаў.

XVIII з'езд Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў), які закончыў сваю работу 21 сакавіка, абмеркаваў усе пытанні работы нашай партыі і краіны за апошнія пяць год і намеціў, як будзе работаць наша партыя і краіна ў далейшым.

СССР акружаюць з усіх бакоў капіталістычныя дзяржавы. Фашысты рыхтуюць супроць нас вайну. Вось чаму наш настаўнік таварыш Сталін вучыць нас быць заўсёды гатовымі да абароны краіны. Мы павінны яшчэ больш умацаваць нашу краіну, нашу родную і любімую Чырвоную армію і Ваенна-марскі флот.

Совецкі народ упэўнена будуе сваё шчаслівае жыццё, ён нікому не дазволіць таптаць сваю родную свяшчэнную зямлю.

---

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ

Сакавік 1939 г. № 3.

# ПАЛІТБЮРО ЦК ВКП(б)



ЧЛЕНЫ І КАНДЫДАТЫ ПАЛІТБЮРО ЦК ВКП(б), ВЫБРАНЫЯ ПЛЕНУМАМ ЦК ПАСЛЯ XVIII З'ЕЗДА ВКП(б).



І. В. СТАЛІН.



А. А. АНДРЭЕЎ.



К. Е. ВАРАШЫЛАЎ.



А. А. ЖДАНАЎ.



Л. М. КАГАНОВІЧ.



М. І. КАЛІНІН.



А. І. МІКАЯН



В. М. МОЛАТАЎ.



Н. С. ХРУШЧОЎ.



Л. П. БЕРЫЯ.



Н. М. ШВЕРНІК.



# ТАРАС ГРЫГОР'ЕВІЧ ШЭЎЧЭНКА

Г. ЭЙХЛЕР

Вялікі паэт Тарас Грыгор'евіч Шэўчэнка нарадзіўся 9 сакавіка 1814 года на Украіне, у сяле Морынцах, Кіеўскай губерні.

Бацька і маці Шэўчэнка былі прыгоннымі сялянамі. Яны жылі дрэнна, як і ўсе прыгонныя. Бацька і маці паэта з раніцы і да ночы працавалі на памешчыка. Цяжкая паднявольная работа рана звяла іх у магілу.

Маленькі Тарас праводзіў цэлыя дні ў стэпе—пасвіў сялянскую жывёлу; потым яго аддалі ў „навуку" да дзяка. Дзяк быў тупым і жорсткім чалавекам і часта біў Тараса.

Тарас з дзяцінства многа рысаваў, складаў песні. Але ніхто не заўважаў яго здольнасцей. За рысаванне яму часта пападала.

Тарасу даводзілася чысціць бульбу, мыць падлогу, выносіць памыі, займацца чорнай работай.

Толькі праз некалькі цяжкіх год споўнілася яго заветная мара. Сябры выкупілі яго з прыгону і накіравалі ў Акадэмію мастацтваў у Пецербургу.

Тады-ж Шэўчэнка пачаў пісаць вершы. Вершы былі вельмі сумныя. Тарас Грыгор'евіч сумаваў па сваёй радзіме, пакутваў за родны, прыгнечаны царом і памешчыкамі, народ.

Неўзабаве вершы Шэўчэнка былі выданы ў кніжцы пад назвай „Кабзар". Гэтая кніжка зрабіла вялікае ўражанне, асабліва на Украіне. Вершы Шэўчэнка завучваліся напамяць і перадаваліся з вуснаў у вусны. Шмат якія вершы гучалі як заклік да паўстання.

Шэўчэнка вучыўся ў Акадэміі і многа пісаў.

Некаторыя свае вершы, напрыклад вялікую рэволюцыйную паэму „Сон", ён не мог надрукаваць. Гэтыя вершы хадзілі па руках, у спісках, чыталіся ўпотайку, як рэволюцыйная літаратура.

Слава Шэўчэнка ў народзе расла, а разам з тым узмацняўся і нагляд за ім царскай жандармерыі.

У 1847 годзе яго арыштавалі, пасадзілі ў турму, судзілі і прыгаварылі за пісанне рэволюцыйных вершаў да ссылкі ў салдаты. Цар найстражэйшым чынам загадаў забараніць яму пісаць і рысаваць.

Шэўчэнка саслалі ў пустынны Орэнбургскі стэп.



Тарас Грыгор'евіч Шаўчэнка рысуе знаёмага. Рысунак Т. Г. Шаўчэнка.

Пазбаўлены магчымасці займацца любімай справай—рысаваць і пісаць,—хворы, змучаны вялікі чалавек не апусціў галавы, не здаўся на міласць царскіх катаў.

Яму не дазволілі пісаць вершаў, але ён пісаў іх патаемна, дзе-небудзь у стэпе. Ён пісаў і хаваў напісанае ў боце. Яму забаранялі рысаваць, але ён рысаваў бедную, пустынную прыроду, цяжкое жыццё ў казарме. Вядома, рысаваў ён употайку ад начальства—у нядзелі, калі можна было пайсці з душнай, смуроднай казармы.

Дзесяць год правёў Шаўчэнка ў турмах, казармах і далёкіх ссыльных месцах.

У 1857 годзе ён вярнуўся ў Пецербург. Яго ўжо тады называлі вялікім паэтам. „Кабзар" чыталі, перачытвалі многа разоў.

У канцы 1860 года Шаўчэнка цяжка захварэў, а 10 сакавіка 1861 года ён памёр.

Паэт памёр, але яго вершы прадаўжалі жыць і паднімаць народ на барацьбу за лепшае, шчаслівае жыццё.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя ажыццявіла мары выдатнейшага народнага паэта. Яна раз і назаўсёды пакончыла з прыгнечаннем і эксплуатацыяй, яна знішчыла злейшых ворагаў працоўнага народа, яна ажыццявіла вялікую дружбу народаў.

Усе народы Савецкага Саюза шануюць і горача любяць вялікага народнага паэта-рэвалюцыянера Тараса Грыгор'евіча Шаўчэнка.



# ФРОСЯ

З. БЯДУЛЯ

Рыс. А. ШАХРАЯ

*(Апавяданне з мінулага)*

Хоць гаротная, але задзёрыстая была Фрося. Яе дробная хатка была старэнькая— на падпорках трымалася. Будкі графскіх сабак былі палацамі побач з гэтай халупай.

Муж Фросі хадзіў вечна на адработкі да кулакоў. Рэдка калі ён што прыносіў дамоў— трэба было адрабляць за пазычаныя зімою харчы: пудок жыта на зацірку, асьміну бульбы. Браў ён зімой жменькі дабра ў розных людзей. Улетку ён дзень у дзень хадзіў ад гаспадара да гаспадара на работу—выплачваць даўгі сваім потам. Ціхі ён быў чалавек; не пярэчыў ды адрабляў у кулакоў за даўгі ў дзесяцікратным размеры. Ціхім быў ён і ў хаце, калі жонка Фрося часам крычала на яго, чаму ён дамоў ніколі нічога не прыносіць. Хоць-бо гэтулькі, колькі сарока на хвасце прынесці можа. Крычала на яго Фрося ды супакойвалася. „А што-ж, сапраўды, рабіць?"—мірылася яна.—„Няхай толькі цяпер заартачыцца, тады зімой ніхто і меркі прыварку не пазычыць. Яшчэ горш стане".

Улетку ў Фросінай хацінцы бывала горш, чым зімой. Ледзь дачакалася лета, калі бог-гасподзь накорміць яе сямейку посным шчаўем ці маладой крапівай, грыбам, ягадкай. Але і гэта дабро бог-гасподзь расціў на графскай зямлі.

І гневалася Фрося на госпада-бога, на графа, на ўсіх багатых людзей.

— Хоць ты на печы сей гэтую крапіву!— скардзілася Фрося.

Замест ежы Фрося расказвала дзецям байку аб тым, як вырасце куст крапівы ў яе хаце, дарасце да столі. Праб'е столь і вырасце да даху. Праб'е дах і вырасце да яснага неба. Праб'е неба і ўрасце пану-богу ў самую бараду. Ад барады ўрасце пану-богу ў самыя вочы. І пан-бог,—які заўсёды глядзіць, каб багатым добра жылося, ды каб бедны чалавек вечна гараваў на паноў,— аслепне. Тады бедныя людзі будуць жаць з аграмаднага крапіўнага дрэва маладыя галінкі



крапівы, будуць гатаваць гэтую крапіву з вадою, прыправяць, прысоляць—ды есці, есці...

Фрося не ўяўляла сабе большага шчасця, як есці ўволю крапіву.

У Фросіных дзяцей разам з ростам казачнага куста крапівы зусім не казачна, а пасапраўднаму, рос апетыт. Яны глыталі сліну. Тут-жа хрукаў галодны падсвінак. І ён на

аршын у хаце быў усёй Фросінай зямельнай гаспадаркай.

Фрося адштурхнула ад сябе дзяцей, схапіла серп, дзіравы мяшок і пабегла з хаты. Здавалася ёй, што яна лёгкая, нібы верабей. Ногі імчалі яе да забароненага шчасця— да графскага пустыра, дзе расце маладая смачная крапіва.



сваёй мове прасіў крапівы... Крапіва стала для сямейкі найвялікшым шчасцем...

І такая жаласлівасць напала на Фросю, што ёй бясконца плакаць хацелася. Загарэліся вочы двума чырвонымі вугаллямі. Сціснуліся рукі ў кулакі. Фрося пачала праклінаць бога, графа ды ўсіх багатых на свеце людзей такімі страшнымі словамі, ажно дзеці спалохаліся.

— Мама... Не злуйся... Нам страшна... Есці не хочам... Мы і так сытыя...

Малыя трымаліся за яе зрэбную спадніцу. Тут-жа хрукаў падсвінак і выкапаў лычком ямку ў хаце. Падлогі-ж не было. А іншага месца, дзе лычком пакапацца ў зямлі падсвінак не меў. Квадрацік зямлі на шэсць

— Фрося, куды ты бяжыш?—пыталіся людзі.

Яна не адказвала.

Здавалася ёй, што яна вельмі моцная. Захоча—і графскі палац перакуліць дахам уніз. Здавалася ёй, што яна вельмі адважная. Захоча—і плюне ў твар самому вяльможнаму графу Чапскаму. Урэпіцца ў графскія вусы да вырве ў яго права на жменьку крапівы...

Фрося! Панскі ляснік круціцца на пустыры. Са стрэльбай... Забіць можа...

Фрося не слухала.

Нажала крапівы. Напхала поўны мяшок— ледзь падняць.

— Ах, ты-ы-ы! Пся косць!

Гэта крычаў графскі ляснік. Ён ішоў да

яе ўзброены стрэльбай, грозны, злосны. Вось зараз ён сатрэ Фросю ў пясок, у пылок. Фрося чакала. Паставіла мяшок ззаду сябе, нібы маці, якая бароніць роднае дзіцё ад лютага звера.

— Хустку сарву! Мяшок забяру! Права не маеш травінку крануць на зямлі яго светласці! Эх, ты-ы-ы!

— Каб на галаве яго светласці куст крапівы вырас!—вылаялася Фрося.

Ляснік пачаў ірваць хустку з галавы Фросі. Жанчына ўрэпілася пальцамі, як абцугамі, у яго вушы, пачала кіпцюрамі драпаць ляснікові твар.

— Пусці, чорт!—пыхцеў, хрыпеў ляснік. Ледзь вырваўся з яе рук.

— Ах ты-ы-ы!—роў ён немым голасам і давай палохаць яе стрэльбай.

У Фросі з'явіліся нечалавечая сіла, вялікі гнеў. Вырвала яна стрэльбу з рук лясніка кінула вобземлю. Потым кінула вобземлю і самога лясніка—і давай таптаць па ім нагамі.

— Як табе гэты танец мой падабаецца?!— пыталася Фрося.

— Фросенька... міленькая...—прасіў, маліў ляснік.

Злосць у Фросі крыху адышла. Яна адпусціла лясніка, памагла яму ўзняцца на ногі. Узваліла на плечы мяшок крапівы, узяла лесніковую стрэльбу ў рукі, каб ляснік чаго добрага не стрэльнуў ёй у спіну—ды пайшла сабе дамоў...

Доўгі час хварэў графскі ляснік. Ледзь упрасіў Фросю, каб стрэльбу аддала. За гэта самае ўсё лета ляснік уначы, каб ніхто не бачыў, насіў ёй шчаўе з панскага агароду, агуркі, дазваляў ягады і грыбы збіраць у пушчы. Ды не толькі ёй, а ўсім жанчынам і дзяўчатам з ваколіцы.

Такую ўмову паставіла Фрося за сваё маўчанне.

Ляснік зрабіўся добрым і мяккім, а ўсё за тое, каб хаця Фрося нікому не гаварыла пра здарэнне на панскім пустыры. Яму сорамна было, што баба яго адалела.

Графу Чапскаму ляснік гаварыў, што мядзведзь на яго ў лесе напаў. Граф узвёў яго ў героі, праславіў перад іншымі панамі жартачкі, мой ляснік, панове, ад мядзведзя абараніўся... У мяне людзі—ого-го!

Фросіны дзеці зажылі ў тое лета „па-графску“—не адных толькі грыбоў і ягад ўдоваль мелі. Калі-ні-калі ім пападаліся і яблычкі з графскага сада.

Фрося тлумачыла дзецям, што ўсё гэта расце на крапіўным кусце, які вырас ад зямлі да самага неба.

— А дзе-ж ён, гэты крапіўны куст?—пыталіся дзеці.

— Як станеце вялікімі, тады, дзеткі, угледзіце гэты самы крапіўны куст,—сказала Фрося ды весела засмяялася.

Адзін храбры ўчынак аблягчыў хоць крышачку яе горкую долю.



# Не тужы

ЯКУБ КОЛАС

## СЫНУ

Ты не тужы—мінецца восень,
Імжа рассеецца, як дым,
І ўсміхнецца неба просінь
У ясным сонцы веснавым.
Зноў зацвітуць лугі, даліны,
І атрасуць свой сон лясы
І ў гоман радасны птушыны
Свае далучаць галасы.
Адзенуць новую адзежу
Дубы, сталёвыя камлі,
А хмаркі неба замярэжаць,
Усплыўшы ціха з-за зямлі.
Клубочкі іх збяруцца ў хмару,
Над полем спусцяць свой паром,
І па нябеснаму абшару
Абход свой зробіць першы гром.
З табой і мы ў свае абходы
На рэчку пойдзем пад дубы,
Або пад добрую пагоду
Цішком пацісне́м у грыбы.
Чаго мы толькі ні сустрэнем!
Якіх не ўчуем галасоў,
У лесным звонкім сутарэнні
Між пышных хвой і верасоў!
Агледзім там барок знаёмы
І не мінём сваіх лужкоў,
І мы, вясёлыя, дадому
Прыцягнем кош баравікоў.

Рыс. В. ЦІХАНОВІЧА



ЯНКА КУПАЛА

# З УСМЕШКАЙ МЫ ЖЫЦЦЮ ГЛЯДЗІМ У ВОЧЫ

З усмешкай мы жыццю глядзім у вочы,—
Судзіла доля шчасце на вяку,—
Збіраем кветкі-папараці ўночы,
Днём з ясным сонцам ходзім пад руку.

Для нас цвітуць сады і агароды,
І жытнія звісаюць каласы;
Галубяць думкі, льюць нам асалоду
Жывою гутаркай бары, лясы.

Растуць, цвітуць сады і вінаграды,
У сонцы спеюць сочныя плады;
На травах сочных у лясных прысадах
Пасецца статак рослы, малады.

Мы, гордыя сваёй доляй, воляй
І добрай славаю паміж людзей,
Імкнемся з поглядам вакол саколім
Ды сочым бег тварэння і падзей.

Дзе пустка поруч з вечным ліхалеццем,
Са зверам дзікім самапас жыла,
Паўсталі гарады і свету свецяць
Снапамі яркімі жыцця й святла.

Каналамі злучылі мора з морам,
Стан Волга абняла Масква-ракі,
Плывуць па сініх караблі прасторах,
Плывуць, куды не плавалі вякі.

І над зямлёй販 пануем у высотах,
І над зямлёй лунаюць караблі.
Як мёд пчала збірае рупна ў соты,
Збіраем скарб з зямлі і з-пад зямлі.

Рэк быстрабурных воды запынілі,
Плацінамі скавалі іх гульню,
І асвятляць моц далі воднай сіле
Электрыкай савецкую зямлю.

І там пайшла вада, дзе неба спекай
Высушывала поле і пасеў,
Дзе адно голад пасвіў чалавека,
Дзе дзіка вецер-сухавей свісцеў.

Збудзілася зямля і падзямелле,
Збудзілася, што спала доўгім сном;
Пяскі сухія рунню зарунелі.
З-пад скал медзь палілася ручаём.

Ракой, фантанамі з зямлі б‘е нафта,
Б‘е стуль, скуль і не сніў прыгонны дзед,
І вугаль з-пад зямлі, з вугальных шахтаў
У скірды сыпіцца на белы свет.

Плыве, гудзе шум гулкі, будаўнічы
Па ўсёй краіне вольнай з краю ў край.
Зязюля годы радасныя ліча,
І песняй жаўранкавай звоніць гай.

З усмешкаю жыццю глядзім у вочы,
Жыццё нясе нам свой багаты дар,
Нясе, а сонцам развідняе ночы
Руплівы наш Крэмлёўскі гаспадар.





Я. ТАЙЦ

# Пра дачку

Рыс. В. ЦІХАНОВІЧА

Маю дачку завуць Маша. Ёй чатыры гады. Нядаўна жонка паехала, я застаўся за маму. Вось я дачку ўдзень палажыў, яна спала гадзіны тры.

Увечары я яе накарміў, раздзеў, зноў пачаў лажыць спаць.

Баю-бай, баю-бай!
Нашу Машку калыхай!

А яна раздурэлася, падскоквае, касавурыцца—якое там „баю-бай"? Ёй-то добра, яна выспалася, а я за дзень стаміўся.

Так-сяк закалыхаў, паўтары гадзіны баюкаў:

Баю-бай, баю-бай,
Нашу Машку калыхай.

Спіць! Лёг і я. Раптам мяне хтосьці будзіць. Адкрываю вочы—дачка! Босая, у адной сарочцы.

— Тата, там трашчыць, і мне страшна!

Сон з мяне саскочыў, і я з ложка саскочыў. Слухаю. Усё ціха.

— Спі, Маша, табе здалося!

— Не-е, не здалося!

Зноў слухаю. І сапраўды, у вуглу штосьці захрусцела, заскраблося. Я засмяяўся:

— Дурненькая, гэта проста мышка!

— Усёроўна баюся!

— Эх, ты, баязліўка! Добра, зараз мы яе зловім.

Я пайшоў у каморку, знайшоў старую мышалоўку, пачаў зараджаць. Людзі добрыя даўно спяць, а мы мышалоўку зараджаем. Насадзіў на кручок лусту каўбасы, прыладзіў дзверцы, каб ледзь трымаліся, і паставіў у куточак. Толькі пачаў засынаць...

— Тата-а!

— Што?

— Чаму-ж яна так доўга не ловіцца?

— Таму што ты не спіш! Вось чаму!

Зноў задрамаў.

— Тата!

— Мммм!

— Што-ж гэта, я сплю-сплю, а яна ўсё не ловіцца!

Я павярнуўся на другі бок. Не буду адказваць. Яна тады хутчэй змоўкне.

— Тата!

— Мммм!

— А як-жа яна ў цемры мышалоўку знойдзе?

Я не вытрымаў:

— Зараз выкіну мышалоўку на вуліцу. Перастань ты мяне тармашыць!

Яна прыціхла:

— Не буду!

Добра, зараз спаць. Захутаўся з галавой, сплю. Усё выдатна, нават сон бачу.

Раптам на ўсю кватэру:

— Трах!

Каравул! Ускочыў ні жывы, ні мёртвы.

Маша крычыць:

— Ай, страляюць!

Ну і ночка! Я пабег да мышалоўкі. Ага, папалася! Тоўстая, шэрая, хвост доўгі.

Маша трэ вочы:

— Тата, пакажы! Ой якая добранькая... і вочкі... і вушкі, і ўсё...

— Пусці, я яе зараз знішчу!

— Татачка, не трэба... шкада... хай пажыве... да раніцы хоць.

Галава баліць, вочы зліпаюцца—махнуў рукой:

— Пакінь мяне ў спакоі, дай-жа нарэшце паспаць!

Галаву на падушку—заснуў. Спаў моцна, соладка, але... нядоўга. Будзяць! Адкрыў вочы. Маша штурхае мяне мышалоўкай.

— Тата... уставай... мышка...

Так-сяк устаў, запаліў святло, узяў мышалоўку:

— Што такое?

Маша плача:

— Тата, яна вырвалася, пішчэла... Мне яе так шкада стала. Я ледзь націснула на дзверачкі... каб яна крыху прагулялася... яна шмык і няма... і зноў трашчыць... і я зноў баюся!

У мяне рукі апусціліся. Зноў усё спачатку! Зноў зарадзіў мышалоўку, чакаем. Але мыш хітрая стала, не ідзе больш на прыманку. Маша плача:

— Я не вінавата! Мне яе так шкада стала...

Тут я раззлаваўся:

— Ага, шкада! А тату ўсю ноч турбаваць не шкада! Каб спаць у мяне неадкладна!



І нават босай нагой тупнуў.

Тут Маша павярнулася да сцяны і—заснула. Лёг і я. А мышка ўсё бегае, носіцца, радуецца, што дачка ў мяне дурненькая. Я злаваўся:

— Ну і ночка! Ну і дочка!

І—заснуў.

# ГІСТОРЫЯ ПРОСТЫХ РЭЧАЎ

## ЗАПАЛКІ

Да вынаходства запалак людзі карысталіся вогнівам. Высякаць агонь вогнівам было складана і доўга. Запалка пазбавіла чалавека ад траты часу і невыгод.

Бацька вынаходцы запалкі Якоба Камерэра рабіў рэшаты. Ён хацеў навучыць гэтаму рамяству свайго сына. Але хлопчыку ўдалося паступіць ва універсітэт. І вось ва універсітэце студэнт Якоб Камерэр зрабіў выдатнае вынаходства: ён вынайшоў запалку.

Запалкі Камерэр мелі вялікія недахопы. Яны былі небяспечны і атрутны. Нярэдка запалкі з'яўляліся прычынай пажара. Сера, якой была абмазана галоўка, выклікала масавыя атручванні сярод рабочых-саматужнікаў, якія рабілі запалкі.

Першыя безапасныя запалкі пачалі вырабляць у Швецыі. Таму іх сталі называць „шведскімі". Хутка запалкавыя фабрыкі ўзнікалі і ў Расіі.

Палачкі для запалак робяць з асіны. У нас у краіне растуць велізарныя лясы самай першасортнай асіны. Мы снабжаем запалкамі многія краіны Еўропы, Амерыкі, Егіпет, Персію, Манголію і Індыю.

Ва ўсім свеце штогодна вырабляецца каля 50 мільёнаў скрынак запалак. У кожнай скрынцы па 1000 карабкоў, а ў кожным карабку па 50 запалак. Паязды, параходы, грузавікі вязуць запалкі спажыўцу ў самыя аддаленыя часткі свету.

Калі сабраць усе запалкі, якія за дзень выпускаюць запалкавыя фабрыкі свету, і зрабіць з іх ланцужок, гэтым ланцужком можна апаясаць зямны шар.





# ПАРАД У КАЛГАСЕ

Ўжо зіме канец прыходзіць,
Сонца ў небе вышай ходзіць,
Снег пакрысе растае,
Цеплынёю абдае;
Ледзякі з крыш пазвісалі,
Не рыпяць па снезе сані,
Птушак шмат каля гумна,—
Скора, скора ўжо вясна.
Пра вясну ўжо шмат размовы
Ўсе сустрэць вясну гатовы.
І сягоння з рання ў нас
На нагах увесь калгас.
Ўсе вясёлыя, ўсе рады
Ўсе рыхтуюцца к параду.
На калгасным на двары
Сталі поплеч трактары,
Крыху далей, ля свінаркі,
Там з плугамі коней паркі
Размясціліся у рад,
Ну сапраўдны-ж то парад!
За плугамі рад за радам,
Бы па нейкаму загаду,
Месца наш заняў абоз—
Сорак новенькіх калёс.
Чарадой бароны сталі,
Поплеч сеялкі занялі
Сваё месца на двары.
Ну, парад! Што й гаварыць!
Старшыня і брыгадзіры,
Як-бы тыя камандзіры
І ў брыгадзе і ў звяне
Правяраюць—як к вясне
І к сяўбе калгас гатовы.
Потым мітынг. Кожны слова
Сабе сёння хоча ўзяць,
Словы-ж моцна так гучаць:
— Кроч, вясна, к нам, маладая,
Мы цябе даўно чакаем!

**Л. КРУЦІЛАЎ**

# Дзіўныя лодкі

А. ЯКІМОВІЧ

Рыс. Н. МАЛЕВІЧА

Такога шчаслівага дня я не памятаю ў сваім жыцці. Але, каб не забягаць наперад, раскажу ўсё па парадку.

Пасля абеда ў суботу брат Ганс паклікаў мяне ў канец двара і сказаў паціху:

— Слухай, Карлуша. Для цябе ёсць работка...

З затоенай усмешкай ён паглядзеў мне ў вочы.

— Маляваць?—здагадваюся я. Якую-ж бо яшчэ работку яны мне прыдумаюць?

— Ты ўгадаў,—кажа брат.—Ніхто лепш за цябе гэтага не зробіць.

Брат кажа праўду. Маляваць я сапраўды ўмею не кепска. Раней, як вучыўся, быў першым вучнем па маляванню.

Ганс—комсамолец, і аб гэтым у сям'і я толькі адзін ведаю. Брат не хавае ад мяне нічога, ён верыць мне, як і сабе самому. Ён кажа, што хутка з мяне таксама будзе добры комсамолец. Я люблю свайго брата. Ён вясёлы, смелы і справядлівы. А як ён ненавідзіць шупо*) Гешке і ўсіх нацы!**) Мне таксама хочацца быць такім, як брат. Бацька кажа, што я падобны на Ганса. Але гэта больш з твару, чым па натуры. Брат Ганс, напрыклад, не любіць лазіць па дрэвах, не любіць сядзець з вудачкай на рэчцы, зусім не цікавіцца гнёздамі і птушкамі, а я без гэтага і дня не магу пражыць.

Азірнуўшыся, Ганс дастае з кішэні і падае мне скамечаны лісток паперы.

— Тут усё напісана, што намаляваць,— кажа ён.

— У лазні?—запытаўся я.

Брат матнуў галавою.

— У кутку за печкаю знойдзеш картон.

*) Шупо—пагарадлівая клічка нямецкіх паліцэйск'х.

**) Нацы—фашысты.

— Чаму не на паперы?—здзівіўся я.

— Так парашылі,—адказаў брат.—У лістку супроць лозунгаў паказаны прыблізныя памеры. Ідзі, Карлуша!

Я здагадаўся, для чаго патрэбны плакаты, і не распытваў у Ганса. Шупо Гешке даўно чакае начальства з акругі. Кажуць, нібы сам акруговы кіраўнік нацы прыедзе і будзе нешта гаварыць. Гешке ўвесь час бегае па сялу, мітусіцца, наводзячы парадкі. З кожнага ўзяў падпіску канешне прыйсці ў нядзелю да школы сустракаць гэтае начальства.

Вядома, брат Ганс і яго таварышы таксама рыхтуюцца. Для мяне гэта было ясна...

Я пайшоў у лазню, якая стаяла недалёка за агародамі, і там маляваў да самага цямна...

* * *

Назаўтра мне не спалася. Прачнуўся я раненька. На гародах яшчэ стаяў туман.

Спехам памыўшыся, я выбег на вуліцу. Там было пуста. Няўжо ўсе яшчэ спяць? Не можа гэтага быць! Плакаты даўно паднялі-б на ногі ўсё сяло. Азадачаны такім падазроным спакоем, я прайшоўся ўдоўж вуліцы. Нідзе ніводнага плаката! Куды-ж бы яны іх падзелі? Звычайна ўсе мае работы выклейваліся на вуліцы і кожны мог іх пачытаць, пакуль не агледзіцца шупо. А можа ён пранюхаў ужо і пазрываў?

Устрывожаны, я вярнуўся дахаты. Заглянуў у каморку, дзе спаў Ганс. Яго там не было... Дзіўна, што з плакатамі? Можа, думаю, Ганс забыўся пра іх?

Неўзабаве стаў ісці народ да школы. Я таксама пайшоў з бацькам. Ганс, думаў я, напэўна будзе там. Ён то павінен ведаць, што з плакатамі.

Школа наша стаіць у канцы сяла на ўзгорку, а каля яе за шагоў сотню цячэ рака, досыць шырокая, з глыбокімі ямінамі. Цераз раку ідзе доўгі драўляны мост. Мы заўсёды любім купацца ў гэтым месцы: ныраем з моста ў глыбокія ямы.

Ужо каторы год як школа наша пустуе. Кожны раз, калі я гляджу на гэты пусты, маўклівы будынак, мне балюча шчыміць сэрца. Так хочацца вучыцца! Але фашысты перасталі плаціць настаўнікам, і яны вымушаны былі пакінуць школу. „Гітлеру патрэбны салдаты, а не вучоныя".

Каля школы сабраўся народ, але Ганса я не бачыў. Гэтага я ўжо зусім не мог сабе растлумачыць.

Думкі мае былі перапынены аўтамабілем. Да школы падкаціў чорны, як жук, лакіраваны аўтамабіль.

Шупо Гешке, які ўвесь час круціўся тут, падскочыў да спыненай машыны і выцягнуўся ў струнку, нібы праглынуў палку.

Кабінка машыны адкрылася. Адтуль першым выпаўз невысокі, шчуплы чалавечак у форме штурмавіка-фашыста, з чорнымі вялікімі акулярамі на носе, за якімі амаль не відаць было твару. За ім вылезла яшчэ два штурмавікі.

Акружаны штурмавікамі і шупо, чалавечак падняўся на ганак. Тут ён кашлянуў разоў колькі, разглядаючы хмары на небе, і стаў гаварыць пра Гітлера. Брахаў, як і сам Гітлер, які заняволіў нямецкі народ і хоча заняволіць іншыя народы. Панурыўшы ў зямлю вочы, слухалі яго сяляне. Усё было вядома. З адной толькі нашай вёскі мо' трэцяя частка людзей загнана ў прымусовыя лагеры, на катаргу. Там сусед наш Эмануэль, які не падняў рукі перад атрадам штурмавікоў. Там стары Людвіг, які не меў з чаго заплаціць падаткі. Там Фрыдрых, Генрых, Густаў... Бедны Густаў у апошні час сам цягнуў плуг і барану. Каня ён не мог пракарміць і прадаў яго на падаткі. Апошняе дабро адбіраюць у нас фашысты.

Раптам заднія рады заварушыліся. Людзі адварачваліся і ўглядаліся ў бок ракі.

„Лодкі з плакатамі!"—пачуў я прыдушаны голас.—„Плакаты плывуць!"—раздалося ўжо некалькі галасоў.

У гэты міг мяне падхапілі, і я разам з усімі апынуўся каля моста на беразе ракі. Услед за намі бег і сам начальнік з штурмавікамі.



— Дарогу! дарогу! разыйдзіся!—махаў сваёй гумавай дубінкай шупо.

Мы расступіліся, і штурмавікі ўзбеглі на мост. Але тут яны адразу падаліся назад: прама на іх да моста адна за другой плылі дзіўныя лодкі: старыя чаўны, наспех збітыя з дошчак плыты і проста чурбакі з ярка намаляванымі плакатамі.

„Мае плакаты!"—ледзь не закрычаў я ад радасці, калі ўбачыў іх. Вось яны дзе знайшліся!

„Прэч крывавага фашыста Гітлера!"—смела і ўпэўнена наступаў на штурмавікоў плакат з бліжэйшай лодкі. За ёй непадалёку ішла другая. „Прэч гітлераўца Штрайха!" Начальства заскрыгатала зубамі: на плакаце было яго прозвішча. „Свабоду Тэльману! Рот фронт!" патрабавала трэцяя лодка. За ёю з кустоў выплывала чацвертая і пятая...

Штурмавікі і шупо Гешке дрыжэлі ад страху,

паглядаючы на збянтэжанага начальніка, які то падбягаў да пярыл, то, як ашпараны, адскокваў назад. Некалькі разоў ён выхватваў з кабуры рэвальвер, аднак на лодкі гэта ніякага ўражання не рабіла: павольна, але грозна наступалі яны на фашыстаў.

— Знішчыць!—роспачна запішчаў нарэшце начальнік.

Але штурмавікі не крануліся з месца. Як укопаныя, стаялі яны на мосце.

— Чаго вытрашчаліся на мяне?—падскочыў бліжэй да іх начальнік.

— Глыбока, пан начальнік, і... вада асенняя,—прахрыпеў перасохшым горлам шупо Гешке.

— Бабы вы, а не салдаты! Марш!

Сагнуўшыся, як пабіты сабака, шупо пацягнуўся да берагу. За ім пайшлі і штурмавікі. На беразе яны марудна раздзяваліся.

Мы не маглі стрымацца ад смеху. Я рагатаў больш за ўсіх. Некаторыя старэйшыя стрымлівалі сябе, а мне чаго баяцца. Хіба яны забароняць мне смяяцца? Дык вось дзе яна, мая работка, як кажа Ганс! Цяпер мне ўсё ясна. Такой выдумкі я аднак не мог-бы сабе і ўявіць.

Шупо са штурмавікамі ўсё-ж раздзеліся. Голыя яны яшчэ стаялі на беразе, пазіраючы на начальніка. Можа ён раздумаецца і адменіць свой загад. Страшна было лезці ў халодную ваду.

Пярэднія лодкі былі ўжо каля самага моста.

— Хутчэй!—заскакаў начальнік.

— Злітуйся, пан начальнік, плаваць не ўмею!..—зноў стаў прасіцца шупо.

Але начальнік так грозна глянуў на яго з-пад акуляр, што шупо адным духам ускочыў у раку. Штурмавікі ўзмахнулі рукамі і паплылі да лодкі. Гешке ўсё-ж не паплыў. Ён стаяў па шыю ў вадзе і фыркаў.

Гэта яшчэ больш рассмяшыла нас. Такога прадстаўлення ніколі не бачылі ў сяле.

— Цёплая вада, пан Гешке?—жартавалі з берагу.

— Можа паплаўкі прынесці?




— Разыйдзіся!—крычаў з моста начальнік.

Але каму хацелася разыходзіцца? Ды, урэшце, хіба глядзець не можна?

Даплыўшы да лодак, штурмавікі не ведалі, як іх знішчыць. Затапіць, не топяцца, гнаць на бераг—цяжка і ўсіх не выганіш. Тады яны сталі зрываць плакаты. У вадзе гэта было таксама не лёгка. Лодкі круціліся, плакаты ныралі пад ваду, каб потым зноў вышчаўкнуць наверх. Разазлаваныя штурмавікі лаяліся на чым свет.

— Бомбамі ўзрываць іх трэба!—жартліва раілі з берагу.

— Або снарадамі разбіваць...

Гэтага ўжо начальнік, відаць, не вытрымаў, бо збег з моста і наставіў на нас рэвальвер.

— Разыйдзіся!

Народ адышоўся крыху і зноў стаў глядзець. Нікому не хацелася пакідаць такое прадстаўленне. Але вось рэзкі стрэл раздаўся над нашымі галовамі. Усе прыціхлі. Потым пачуліся гнеўныя галасы:

— У народ страляць!

— Мы на сваім беразе стаім!

— Фашыст!—пачуў я блізка ад сябе знаёмы голас. Я азірнуўся—гэта быў мой брат Ганс. Значыць, ён ужо вярнуўся. Лодкі—гэта канешне яго работка!

Ганс і яшчэ чалавек дзесяць выйшлі наперад. Моўчкі са сціснутымі кулакамі яны спыніліся супроць страляўшага фашыста. Фашыст апусціў рэвальвер і адступіў назад. Ганс з таварышамі, а за імі ўсе мы падаліся ўперад, без крыку і пагроз.

— Комуністы!—закрычаў фашыст, адвярнуўся і шпарка пабег да аўтамабіля.

Гешке з штурмавікамі, убачыўшы гэта, хутка падаліся да берагу. Вызваленыя лодкі паплылі далей сваёю дарогай, радуючы нас і наводзячы жах на фашыстаў.

— Пайшлі дамоў!—спакойна сказаў Ганс ні то да мяне, ні то да ўсіх.

Услед за намі бераг пачаў пусцець.

# БАБУЛЬЧЫНЫ РУКАВІЧКІ

**З. ТЭЛЕСІН**

Рыс. **Н. МАЛЕВІЧА**

Тут на гэтай нізкай прызбе,
Ў час, калі вясна была,
Пэрлэ, родная, бабулька,
Рукавічкі мне пляла.

Я сядзеў з бабулькай побач,
Вочка кожнае лічыў.
Казкі, былі, небыліцы
Часта слухаць я любіў.



Аб паўліне, аб царэўне
І аб казачнай зямлі,
Дзе з барадамі, як хмары,
Людзі дзіўныя жылі.

Аб старым над вірам млыне,
Пра страшэннейшы пагром,
Як разводдзем, поўнаводдзем
Патануў на дно паром.



Як сям'ю згубіла птушка,—
Сірацінаю жыла.
Сумавала, гаравала,
Долі шчаснай не знайшла.

Гаварыла казкі, былі
Мне на прызбе пад акном
І здаецца ў рукавічкі
Заплятала іх прутком.

Рукавічкі-невялічкі
З малым пальчыкам былі;
Не было суконных нітак,
Дык з атрэп'я іх плялі.

Толькі вочкі чырванелі,
І прыемна так было
Адчуваць зімой сцюдзёнай
Іх пушыстае цяпло,—

Ці пайду капаць я гліну,
Каб замазаць ёю печ,
Ці пачну сячы я дровы
І складаць іх пад павець.

Ці пайду з вядром да студні
За крышталь наю вадой,
Ці паеду ў шлях-дарогу
Неспакойнаю зімой.

Ці ў дні завей ля ганку
Стану сцежкі падмятаць,
Альбо вечарам карове
Буду сена падаваць.



Разглядалі рукавічкі
Ўсе хлапцы—мае сябры.
Мне зайздросцілі ад сэрца,
Як каталіся з гары.



Над магілаю бабулькі
Дуб галіны апусціў.
Рукавічкі-невялічкі
Я даўным-даўно знасіў.

Я стаю ля той-жа прызбы,
Днём марозным пад акном,
І ад блізкіх успамінаў
Вее ласкай і цяплом.

З яўрэйскай мовы пераклаў
**А. БЯЛЕВІЧ.**




Л. Н. ТАЛСТОЙ

Купіла маці сліў і хацела іх даць дзецям пасля абеда. Яны яшчэ ляжалі на талерцы. Ваня ніколі не еў сліў і ўсё нюхаў іх. І вельмі яны яму падабаліся. Вельмі хацелася з'есці. Ён усё хадзіў каля сліў. Калі нікога не было ў пакоі, ён не ўтрымаўся, схапіў адну сліву і з'еў. Перад абедам маці палічыла слівы і бачыць—адной няма. Яна сказала бацьку.

За абедам бацька і кажа:

— А што, дзеці, ці не з'еў хто-небудзь адну сліву?

Усе сказалі;

— Не.

Ваня пачырванеў, як рак, і сказаў таксама:

— Не, я не еў.

Тады бацька сказаў:

— Калі з'еў хто-небудзь з вас, гэта нядобра; але не ў тым бяда. Бяда ў тым, што ў слівах ёсць костачкі, і калі хто не ўмее іх есці і праглыне костачку, то праз дзень памрэ. Я гэтага баюся.

Ваня збялеў і сказаў:

— Не, я костачку кінуў за акно.

І ўсе засмяяліся, а Ваня заплакаў.






Л. Н. ТАЛСТОЙ

Сын прыехаў з горада да бацькі ў вёску. Бацька сказаў:

— Цяпер пакос, вазьмі граблі і пойдзем, дапамажы мне.

А сыну не хацелася працаваць, ён і кажа:

— Я вучыўся навукам, а ўсе мужыцкія словы забыў; што такое граблі?

Толькі ён пайшоў па двару, ступіў на граблі; яны яго ўдарылі ў лоб. Тады ён і ўспомніў, што такое граблі, схапіўся за лоб і кажа:

— І што за дурань тут граблі кінуў!



## ЗАДАЧКІ

1. Я прыдумаў два лікі. Калі іх злажыць будзе 7; а калі перамножыць, будзе 6.

Якія-ж лікі я прыдумаў?

2. Якую літару трэба схаваць за займеннікам, каб атрымаць назву жывёлы?

**ЦАНА 30 кап.** 041



# У ВОЛЬНЫ ЧАС

## ЗАГАДКАВЫЯ МАЛЮНКІ



1. Каго спужаліся дзеці?



2. Куды схаваліся ад мядзведзя брат і сястра хлопчыка?

## ЗАБАЎНЫ ЛІК



Паспрабуйце лічыць і не зблытацца, колькі тут кошак, гусей і пеўняў. Але лічыць трэба адразу: адна кошка, адзін гусь; дзве кошкі, адзін певень; тры кошкі, два гуся, два пеўні; тры пеўні... і г. д.

## АДГАДАЙ РЭБУС




## ЗАГАДКІ

1. Мяту, мяту—не вымету; нясу, нясу—не вынесу; як час прыдзе—сама пойдзе.
2. Сядзіць баба на градках, уся ў заплатках.
3. Залатое рашато чорных домікаў паўно. Колькі чорных домікаў, столькі белых жыхароў.
4. Па нітачках дарожак імчацца весткі без ножак.
5. Чорнае сукенца само лезе ў акенца.

Рэдактар І. МАСАРСКІ Афармленне В. Ціхановіча Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.

Друкарня імя Сталіна, Менск. 17.000 экз. Зак. № 371. 2 1/2 друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № П—200.